 




Хоць у гэты восеньскі дзень дзьме сыры вецер і сонца не скорае на цёплы прамень, бляск у вачах Вашых выхаванкаў і ўсеагульная пашана да Вашай працы ўчыняюць дзень 14 кастрычніка самым сонечным, самым прыгожым днём.

Напярэдадні Вашага свята, дарагія настаўнікі, вучні і студэнты перадалі Вам самыя сардэчныя пажаданні, уручылі букеты кветак, прадэкламавалі вершы і спелі вясёлыя песенькі. Дарослыя ж, занятыя сваімі штодзённымі абавязкамі, не ўсе маглі прысутнічаць на Вашым свяце. Але душою ўсе мы з Вамі, бо кожны з нас носіць у сэрцы неўміручы вобраз свайго любімага настаўніка — зборны вобраз усіх Вас, шаноўныя педагогі.

Віншуем са святам усіх Вас: і тых, хто ўпершыню ў гэтым годзе з дзённікам у руцэ ўвайшоў у клас, каб пачаць свой працавіты і доўгі настаўніцкі шлях; і тых, хто з году ў год аддае ўсе свае сілы навучанню і выхаванню маладога пакалення; і тых, чыя галава ўжо зацярушана сівізной і голас страціў колішні звонкі тэмбр, а яны ўжо вучаць дзяцей сваіх былых вучняў, хто пасля доўгіх год працы на ніве асветы цяпер знаходзіцца на заслужаным адпачынку.

Нашыя самыя сардэчныя віншаванні перадаем усім настаўнікам нашай роднай беларускай мовы, дырэктарам школ, дзе яна навучаецца, працаўнікам органаў асветы і тым сярод Вас, хто не шкадуючы свайго часу, самаахвярна дзейнічае ў радах нашай арганізацыі, дапамагае гурткам БГКТ, кіруе мастацкай самадзейнасцю пры іх, рыхтуе моладзь да ўдзелу ў дэкламатарскіх, харавых конкурсах і іншых культурна-асветных мерапрыемствах.

Усім Вам, шаноўныя настаўнікі, з нагоды Вашага свята самыя шчырыя пажаданні поспехаў і задавальнення з працы, а таксама ўсяго найлепшага ў асабістым жыцці складае

ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА І РЭДАКЦЫЯ «НІВЫ».




# Ніва

ТЫДНЁВІК ГПБГКТ

№ 42 (868) ГОД XVII БЕЛАСТОК 15 КАСТРЫЧНІКА 1972 г. ЦАНА 60 гр.


**Настаўнікі беларускай мовы з'яўляюцца надзейнымі актывістамі БГКТ. Былі яны таксама шырока прадстаўлены на VII з'ездзе і надавалі тон яму. А ў перапынках — абмен думкамі. Тым больш, што сабраліся старыя знаёмыя. На здымку злева направа: загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Альжбета Смулкова, настаўніца беларускай мовы Бельскага беларускага ліцэя Зінаіда Красоўская і рэдактар беларускіх перадач беластоцкага радыёвяшчання Станіслаў Пазнанскі. З. Красоўская і С. Пазнанскі з'яўляюцца выпускнікамі кафедры беларускай філалогіі В. У. Фота Цаф — П. Савіцкі**

## VII З'ЕЗД БГКТ

(ВЫСТУПЛЕННЕ САКРАТАРА ВК ПАРП УЛАДЗІСЛАВА ЮШКЕВІЧА)

Дазвольце мне, таварышы, ад імя Ваяводскага камітэта перадаць вашаму з'езду, усім дзеячам, членам і сімпатыкам таварыства сардэчныя прывітанні і прызнанне за самаахвярную працу ў супольнай справе развіцця нашага рэгіёну і краіны. Адначасова я глыбока перакананы, што ў рабочай атмасферы з'езду вы намеціце галоўныя напрамкі вашай далейшай актыўнай культурнай і грамадска-гаспадарчай дзейнасці.

Кіраўніцтва Ваяводскага камітэта высока ацэньвае датыхчасовую працу вашага таварыства. Добрыя вынікі дасягнуты вамі ў вашай карыснай працы таксама і дзякуючы таму, што Народная Польшча назаўсёды парвала з рэакцыйнай палітыкай міжваенных урадаў.

А перададзеныя вам толькі што пажаданні вынікаюць з ленінскай палітыкі нашай партыі і пачуццяў польскага грамадства да ўсіх нацыянальных меншасцей, пражываючых на тэрыторыі ПНР, а таксама да ўсіх іншых народаў, а асабліва да братніх савецкіх народаў. І справа тут не толькі ў тым, што савецкая краіна з'яўляецца



*Сакратар ВК ПАРП Уладзіслаў Юшкевіч выступае з трыбуны VII з'езду БГКТ.* *Фота Цаф — П. Савіцкі.*

блізкім суседам, справа не толькі ў блізкасці мовы і культуры. Справа перш за ўсё ў тым, што наша дружба нараджалася даслоўна з цярпенняў працоўных мас абодвух народаў. Сцераглі яны яе, баранілі і паглыблялі ў надзвычай цяжкіх гістарычных умовах, калі класы эксплуататараў і правячыя колы, дзякуючы сваёй класава-эгаістычнай палітыцы, рабілі ўсё, каб сеяць непаразуменні, нянавісць і паглыбляць узаемную варожасць.

Наша дружба, таварышы, фарміравалася ў барацьбе за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне, якую ў няроўных часта ўмовах вялі з эксплуататарамі лепшыя прадстаўнікі абодвух нашых народаў.

Таксама польскі і беларускі народы шмат маюць супольнага ў сваёй гісторыі. Супольна змагаліся яны за вызваленне з царызмам, з капіталістычна-памешчыцкім прыгнётам санацыйнай Польшчы і з гітлераўскім акупантам. За вашу і нашу свабоду гінулі ў гэтай барацьбе найлепшыя сыны польскага і беларускага народаў.

Класавая салідарнасць яшчэ больш вырасла, загартавалася і ўмацавалася пасля вызвалення, калі беларусы разам з палякамі ўдзельнічалі ва ўмацаванні народнай улады і адбудове Беласточчыны, а цяпер актыўна ўдзельнічаюць у будаўніцтве сацыялізму і павышэнні дабрабыту нашага грамадства ў нашай краіне. Адзначаны ў справаздачным дакладзе грамадска-прафесіянальны склад членаў таварыства, а асабліва іх прыналежнасць да партыі і грамадска-палітычных арганізацый, пацвярджае актыўнасць вялікай часткі вашай арганізацыі.

Асабліва значныя дасягненні таварыства адзначаем у галіне культурнай дзейнасці. За перыяд сваёй 15-гадовай дзейнасці вы выпрацавалі добрыя формы працы ў галіне распаўсюджвання беларускай нацыянальнай культуры, а перш за ўсё ў галіне развіцця мастацкага самадзейнага руху і чытальніцтва. Неабходна станоўча ацаніць таксама вашу дзейнасць пры адзначэнні гадавін і дзяржаўных свят, а таксама даволі паўсямесна праводзімую лектарскую акцыю. Дзякуючы гэтай дзейнасці, культывуюцца, з аднаго боку, прыгожыя традыцыі беларускага народа, а з другога боку, прывіваецца і паглыбляецца перакананне аб супольнасці інтарэсаў беларускай меншасці з польскім насельніцтвам, якая ўсё больш інтэгруецца з усім нашым народам, паспяхова ўключаючыся ў рытм грамадска-гаспадарчых перамен, адбываючыхся ў Народнай Польшчы.

(Працяг на стар. 3)




Калі на конкурсе для школьнікаў «Беларуская песня—72» выступіў калектыў з пачатковай школы з Веек Беластоцкага павету ў суправаджэнні гарманіста чатырохкласніка Пеці Ваўранюка, усе былі захоплены. І я пастанавіў абавязкова наведаць школу ў Вейках.

Суботні надвячорак. У школе — ні вучняў, ні настаўнікаў, адно прыбіральшчыца завіхаецца, клапоцячыся пра бляск і шык светлых, густоўна ўпрыгожаных, запоўненых кветкамі і шафамі з навучальнымі дапаможнікамі класаў. Хаджу па іх, і маё вока колішняга настаўніка не можа нарадавацца гэтымі з піетызмам сабранымі і экспанаванымі малюнкамі і працамі вучняў, строгім ладам і парадкам у зашклёных шафах, дагледжанай мэбляй — усё на сваім месцы, акуратнае. «Так, — думаецца мне, — тут працуюць старанныя і салідныя людзі».

## Настаўніцкая сям'я

Вось і яны. Марыя і Мікалай Ваўранюкі жывуць не пры школе, а ў вёсцы. У старой пахіленай сялянскай хатцы грамадская рада наймае ім — сям'і, што складаецца з дзвюх дарослых асоб і дваіх дзяцей, — адзін-адзіны невялічкі пакойчык.

— Настаўнічалі ж мы абое доўгі час у Гарадку, — паясняе дырэктар школы Мікалай Ваўранюк. — Было там і жыць выгодна і працаваць не так ужо цяжка. А пацягнула сюды.

— ?

— Хацелася пераканацца самому, чаго чалавек варты, самастойна ведучы школу ў такой далейшай мясціне, дзе да мястэчка адзінаццаць, а да бліжэйшага аўтобуснага прыпынку — шэсць кіламетраў.

— І не наракаем, — уключаецца пані Марыя. — Дзеці ў вёсцы лепшыя і падатнейшыя. Можа не ўсе яны такія развітыя, як у горадзе, але затое яны надта ж удзячны матэрыял, з якога можна многа зрабіць. Нашыя вучні проста цягнуцца да вучобы, пасля заканчэння пачатковай школы імкнуцца вучыцца далей, паглыбляць і пашыраць свае веды. І надта ж ахвотныя да артыстычнай дзейнасці. У школе я вяду практычна-тэхнічныя заняткі і польскую мову ў VII—VIII класах, і мой самы шчаслівы дзень — гэта той, калі вучні падрыхтаваны да ўрокаў і

Працяг на стар. 4

 




Усё лепш выконвае сваю ролю тыднёвік «Ніва», на старонках якога публікуюцца матэрыялы аб жыцці і дзейнасці беларускага насельніцтва, аб яго патрэбах і перспектывах развіцця як усяго нашага рэгіёну, так і паасобных мясцовасцей, дзе насельніцтва гэта жыве і працуе. Вялікія таксама дасягненні «Нівы» ў пашырэнні культуры і асветы, у азнаямленні сваіх чытачоў з жыццём грамадства Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а таксама ва ўмацаванні польска-савецкай дружбы.

Таварышы!

Партыя і народная ўлада стварае спрыяльны клімат і добрыя ўмовы для свабоднага развіцця нацыянальных меншасцей і іх грамадска-культурных таварыстваў. Усякая каштоўная і карысная ініцыятыва Беларускага грамадска-культурнага таварыства заўсёды падтрымліваецца кіраўніцтвам партыі. Таксама і ў будучыні мы будзем падтрымліваць усё тое, што добрае і карыснае, што будзе будзіць грамадска-палітычную актыўнасць людзей і дапамагаць выкананню намечанай VI з'ездам праграмы партыі, а таксама інтэграцыі нашага грамадства.

Пастановы VI з'езду з'яўляюцца ўсебаковай праграмай дзейнасці нашай партыі, рабочага класа і ўсяго грамадства. Таму да іх выканання прыступілі ўсе звенні партыйных арганізацый, палітычных стронніцтваў і грамадска-прафесіянальных арганізацый.

Высока ацэньваючы пачынанні таварыства ў галіне развіцця культуры і асветы, хачу адначасова сцвердзіць, што гэта толькі частка вашых заданняў. Не менш важныя, калі не найважнейшыя заданні, стаяць цяпер у грамадска-гаспадарчай галіне, дзе лічыцца знаходлівасць і ініцыятыва кожнай арганізацыі і кожнага яе члена.

Шматгадовая актуальнасць рашэнняў VI з'езду абумоўлівае тое, што як папулярызацыю, так і пераўтварэнне ў жыццё гэтых рашэнняў нельга зводзіць да аднаразовай кампаніі, павінен гэта быць пастаянны працэс. Адсюль вынікаюць акрэсленыя заданні таксама для ўсяго вашага таварыства, а асабліва членаў партыі і актыву грамадскіх арганізацый.

Неабходна не толькі актыўна ўключыцца ў працу ў партыйных арганізацыях, радах нарадовых і грамадскіх арганізацыях, але і наладжваць сістэматычныя кантакты і сустрэчы з беларускім насельніцтвам, каб, выкарыстоўваючы псіхіку, нацыянальныя вузы і своеасаблівыя моўныя формы, ясным і зразумелым спосабам, а гэта значыць, і найбольш паспяховым, знаёміць гэтых людзей з праграмай партыі і заданнямі, якія з яе вынікаюць для паасобных грамадска-прафесіянальных груп нашага грамадства.

Неабходна развіваць актыўную дзейнасць у гэтым напрамку, прымаючы пад увагу заданні, якія стаяць перад намі ў галіне далейшага гаспадарчага развіцця нашага ваяводства. Праўда, дасягнутыя ў першым паўгоддзі гэтага года прадукцыйныя вынікі даюць падставы да ўмеркаванага аптымізму, паколькі планы ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы, беручы глабальна, былі выкананы і перавыкананы. Тым не менш аднак, каб поўнасцю рэалізаваць гаспадарчую праграму, і перш за ўсё ў галіне сельскагаспадарчай прадукцыі і сельскагаспадарча-спажывецкай прамысловасці, трэба будзе яшчэ шмат папрацаваць як ваяводскім партыйным і дзяржаўным уладам, так і цэламу грамадству.

Беластоцкае ваяводства ёсць і доўга яшчэ застанецца рэгіёнам, дзе падставовай галіной нацыянальнай гаспадаркі з'яўляецца сельская гаспадарка і развіваючаяся на яе базе сельскагаспадарча-спажывецкая прамысловасць. Таму ад павелічэння і мадэрнізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі ў асноўным залежаць будзе паспяховае, планавае гаспадарчае развіццё і ўзрост дабрабыту грамадства нашага ваяводства.

Чакаюць нас тут адказныя задачы. Паводле намечаных планаў, у 1975 годзе вартасць глабальнай сельскагаспадарчай прадукцыі складзе 24 мільярды злотых, гэта значыць, на 27 працэнтаў больш, чым у 1970 годзе. Пры гэтым прадугледжваецца, што колькасць раслінай прадукцыі павялічыцца на 23,2 працэнта, а жывёльнай — на 33,8 працэнтаў. Аналагічна вялікая дынаміка павелічэння сельскагаспадарчай прадукцыі прадугледжваецца на наступную пяцігодку, гэта значыць, на 1976—80 гады.

Каб загаспадарыць сур'ёзна ўзрастаючую базу сыравіны, неабходна, зразумела, далей інтэнсіўна развіваць сельскагаспадарча-спажывецкую прамысловасць. Таму, акрамя распачатых ужо будоў як, напрыклад, цукроўні ў Лапах і мясакамбіната ў Элку, у наступных гадах прадугледжваецца пабудаваць у ваяводстве цэлы шэраг новых прадпрыемстваў сельскагаспадарча-спажывецкага характару, а асабліва элеватараў, прамысловых млыноў, халадзільнікаў, малочных прадпрыемстваў, гароднінна-перапрацоўчых камбінатаў і г.д.

Будзем развіваць таксама лёгкую і драўнінную прамысловасць, а перш за ўсё тэкстыльную, швейную і мэблевую, а таксама паслуговую базу для хутчэйшага развіцця турыстыкі ў нашым ваяводстве.

Паспяховае выкананне гэтых задач стварае карысныя перспектывы для ваяводства і яго жыхароў. Рэалізаваць іх можна будзе аднак, толькі максімальна выкарыстоўваючы ўсе сродкі, якія мы маем, і поўнасцю мабілізуючы наша грамадства.

Прымаючы пад увагу сацыяльна-прафесіянальны склад таварыства, большасць членаў якога пражывае на вёсцы ці ў малых мястэчках, адным з падставовых вашых заданняў павінна быць канцэнтрацыя грамадска-гаспадарчай дзейнасці ў сельскім асяроддзі. Такім чынам, мабілізацыя вясковага насельніцтва ў мэтах інтэнсіфікацыі і павелічэння прадукцыі, а таксама павышэння сельскагаспадарчай культуры павінны быць, побач з культурна-асветнай дзейнасцю, другім вашым заданнем у дзейнасці новых улад Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Вялікія задачы для членаў вашага таварыства мы бачым у арганізаваным конкурсе «Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная», у грамадскіх чынах, павышэнні сельскагаспадарчай культуры і г.д. Гэта, таварышы, справы важныя для нас усіх, для ўсяго нашага ваяводства, а ў тым ліку, а магчыма, і перш за ўсё для раёнаў, дзе пражывае беларускае насельніцтва, з увагі на тое, што менавіта гэтыя раёны з пункту гледжання развіцця прадукцыі і сельскагаспадарчай культуры з'яўляюцца адносна найбольш спозненыя.

Ёсць тут месца на розныя грамадскія ініцыятывы, якія без дадатковых фінансаў могуць прынесці сур'ёзныя карысці жыхарам нашага ваяводства. Адным словам, каштоўная кожная ініцыятыва, накіраваная да далейшага паспяховага развіцця сельскай гаспадаркі ў нашым ваяводстве.

Сігналізуючы аб гэтым, мы ўпэўнены, што актыў таварыства не пашкадуе сіл і ўмення, каб спазненне гэтае нашым супольным высілкам хутка ліквідаваць. Будзе гэта з'яўляцца адначасова падставовай прадпасылкай да ўзросту агульнай культуры і паляпшэння ўмоў жыцця беларускага насельніцтва.

Таварышы дэлегаты!

Высокая ацэнка вашай дзейнасці, дадзеная ўчора на сустрэчы першага сакратара Ваяводскага камітэта з прадстаўнікамі ўступаючых улад таварыства, якую я сёння яшчэ раз хацеў бы пацвердзіць усім дэлегатам, не звальняе вас, зразумела, ад абавязку шукаць усё лепшыя і больш паспяховыя формы і метады працы ў рэалізацыі прынятай на сённяшнім з'ездзе праграмы дзейнасці.



*У І-га сакратара ВК ПАРП Здзіслава Куроўскага.* *Фота Цаф — П. Савіцкі.*

На гэтай сустрэчы, акрамя дадзенай вам ацэнкі, высокай ацэнкі, дыскутавалі мы таксама аб галоўных напрамках развіцця ваяводства і заданнях актыву вашага таварыства. Вось, напрыклад, некаторыя з іх.

Неабходна, такім чынам, перш за ўсё ўдасканальваць і пашыраць ужо запачаткаваныя добрыя формы супрацоўніцтва з маладзёжнымі арганізацыямі і культурнымі пляцоўкамі, а перш за ўсё з клубамі «Рух» і клубамі селяніна ў галіне распаўсюджвання культуры і грамадска-палітычных ведаў, а таксама папулярызацыі дасягненняў народнай улады і адбываючыхся грамадска-гаспадарчых перамен у нашым ваяводстве і краіне.

Трэба аднак, таварышы, памятаць аб падставовай справе. Усе нашы пачынанні павінны быць падначалены асноўнай праблеме ў нашых умовах, гэта значыць, магчыма хутчэйшаму развіццю сельскай гаспадаркі, а тым самым і хутчэйшаму павышэнню ўзроўню жыцця жыхароў Беласточчыны.

У рамках лектарскай дзейнасці і рознага віду сустрэч, разам з папулярызацыяй культуры і прагрэсіўных народных традыцый, распаўсюджваць трэба палітычныя і грамадскія ідэі, звязаныя з 50-ай гадавінай Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, якую адзначаць будзем у снежні гэтага года.

Усе інстанцыі і партыйныя арганізацыі, грамадскія арганізацыі і культурныя таварыствы, у тым ліку таксама і Беларускае грамадска-культурнае таварыства, павінны паглыбляць сярод нашага грамадства пачуцці брацкай дружбы да народаў Краіны Саветаў.

Непарыўная дружба, салідарнасць, саюз і ўсебаковае супрацоўніцтва былі, ёсць і заўсёды будуць фундаментам нашай нацыянальнай палітыкі. Аб'яднаныя супольнай ідэяй марксізму-ленінізму і супольнымі карэннымі нацыянальнымі і дзяржаўнымі інтарэсамі на падставе ідэйных вузаў, супольнасці дзяржаўнага ладу, роўнасці і ўзаемнай пашаны, мы развіваем дружбу і супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі.

Дарагія таварышы дэлегаты!

Дазвольце, што ад імя кіраўніцтва Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі перадам вам і выбраным сёння ўладам праўлення, а таксама і ўсім членам вашага таварыства шчырыя партыйныя пажаданні. Жадаю вам шмат поспехаў і задавальнення ў прафесіянальнай і грамадскай працы, а таксама ўсяго добрага ў асабістым жыцці!



*У кулуарах VII з'езду БГКТ. Злева направа: галоўны рэдактар «Нівы» Г. Валкавыцкі, кіраўнік аддзела прапаганды ВК ПАРП В. Авер, сакратар ВК ПАРП У. Юшкевіч, кіраўнік адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП У. Канстанчук.*
*Фота Цаф — П. Савіцкі.*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Кансультацыі юрыста

ПЫТАННЕ: У маіх бацькоў было пяцёра дзяцей. Толькі адзін сын застаўся на гаспадарцы, якая складаецца з 7 га. Іншыя працуюць у горадзе. Бацькам маім па 70 год, і працаваць яны не могуць. Ці ўсе дзеці абавязаны даваць на ўтрыманне бацькоў? Ці гэта абавязак сына, які працуе на гаспадарцы і якому гаспадарка дастаецца ў спадчыне? Паколькі ўсе іншыя дзеці на гаспадарцы не працуюць, у спадчыне яны нічога не атрымаюць. Апрача гэтага, бацькі маглі б аддаць гаспадарку дзяржаве і атрымаць пенсію, і таму, па-мойму, толькі сын, які знаходзіцца на гаспадарцы, абавязаны ўтрымліваць бацькоў.

АДКАЗ: Утрымліваць бацькоў павінны ўсе дзеці незалежна ад таго, ці працуюць на гаспадарцы бацькі, ці працуюць на прадпрыемстве ці ў дзяржаўнай установе, паводле сваіх магчымасцей. Абавязак таго, хто працуе не ў сельскай гаспадарцы, не з'яўляецца меншым, чым сына, які працуе на бацькоўскай гаспадарцы. Сёння дзяржава дае тым, хто прыйшоў з вёскі ў горад, навуку і запэўнівае рабочае месца, якое каштуе дзяржаве сотні тысяч злотых. Сельская гаспадарка — гэта сёння толькі рабочае месца, з якога штораз больш сялян, асабліва моладзі, уцякае. Не прывілегія застацца на гаспадарцы, і няправільным было б перакідаць увесь цяжар на сына, які гаспадарыць у вёсцы, тым больш, што яго матэрыяльная сітуацыя можа быць горшай, чым іншых.

## АЛЬХОЎЦЫ ПАТРЭБНЫ КЛУБ

У нашых вёсках клубы «Рух» ці клубы «Рольніка» карыстаюцца вялікай папулярнасцю. Часам яны з'яўляюцца адзіным месцам, дзе можна арганізаваць культурна-асветную працу. На жаль, ёсць у нас яшчэ вёскі (і не малыя), у якіх няма такога патрэбнага культурнага цэнтра. Да такіх вёсак залічваецца і Альхоўка ў Гайнаўскім павеце. Моладзі тут нямала, калісьці славілася яна сваёй мастацкай самадзейнасцю. Быў тут адзін з найлепшых у павеце драмгурток. Была таксама гутарка аб арганізаванні клуба. Аднак захады ў гэтым напрамку не здзейсніліся. Клуба ў Альхоўцы як не было, так і няма. Праўда, павятовае кіраўніцтва «Руху» было ўжо згадзілася на заснаванне ў нашай вёсцы клуба, аднак ГРН у Нараўцы, якая мела плаціць гаспадару за карыстанне памяшканнем, не дайшла з ім да згоды ў справе цаны. І на гэтым скончылася.

Памалу пагасла таксама і актыўнасць моладзі. Драмгурток спыніў працу. Рэпетыцыі яго адбываліся ў школе. Ну, а школа, гэта, вядома, школа, а не клуб ці вясковая святліца, дзе гаспадарыць сама моладзь. Ды і адносіны былога кіраўніка школы не былі спрыяльнымі для моладзі. Адным словам, добра пачатая праца мела сумны канец.

Альхоўская моладзь не мае культурнага прыстанішча. Калі настане вечар, няма дзе дзецца. Пасядзеўшы на вуліцы, маладыя разбіваюцца на групкі і шукаюць «разрыўкі» ў таго ці іншага гаспадара: просяцца на тэлевізар, каб хоць дзеннік паглядзець, ці які-небудзь фільм. А, вядома, не ўсе гаспадары ахвотна прымаюць такіх гасцей.

У суседніх вёсках (у Масеве ці ў Нараўцы) ёсць свае клубы і там зусім інакш выглядаюць доўгія, асеннія вечары. Чаму альхоўская моладзь мае быць пакрыўджана? Мо клуб актывізаваў бы спыненую культурную дзейнасць? Ёсць жа тут шмат таленавітай моладзі! І трэба для яе ўрэшце стварыць свой «прытулак».

*Юрка Скепка, Альхоўка*

## ПАРНАСІК

ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### ДУМКІ

Плывеце вы па полі роўным,
па неабсяжным полі мар,
і па далінах, і па ўзгорках,
па трапесчачых крыллях хмар.

Птахі вы вольныя мае, вы,
чаму нястомна вам так жыць?
вы — дзеці родныя, жывыя,
вы — песні ствол і пах вясны.

І сэрца кроў, раса травінак
і жаль нуды, душэўны боль,
чаму ж вы, ясныя, прыпынак
ніяк не знойдзеце тут свой?

Не, вам прыпынку быць не можа
навошта ж вам ён, летуны?
вы — шчасця кветкі, гук трывожны,
вы — песні ствол і пах вясны.

* ✻ *

Адыдзі ад мяне
адчапіся
чаго за мною
валочышся
чаго ад мяне патрабуеш?
не
ты маўчыш
ты
нічога не адказваеш
ты глухі
ты нямы
дзе ты
знікаеш
сонца зайшло
мне сумна
заўтра
калі ўзыйдзе
сонца
ты
вернешся.

*Мар'я Семянюк*

## СУСТРЭЧА ВАЖАТЫХ

15 і 16 верасня г.г. адбылася сустрэча важатых зухавых і гарцэрскіх дружын Беластоцкага павету. У час сустрэчы новыя важатыя далі прысягу. Прысягалі на сцяг гуфца, прымаў прысягу начальнік Беластоцкай харугві ЗГП Стэфан Кэнска. Прысутнічаў таксама сакратар ПК ПАРП Аляксандр Бельскі.

*Мікалай Краўчук*
*Патока*




*Дарагое Сэрцайка!*

Была я маладой 18-гадовай дзяўчынай, калі пазнаёмілася з Толікам. Знаёмства было кароткае. Спаткаліся на забаве, куды ён прыехаў з хлапцом з нашай вёскі, з якім працавалі разам у ПГР-ы. Яшчэ некалькі разоў прыехаў да мяне Толік і запрапанаваў, каб я выйшла за яго замуж. Я згадзілася, хаця аб ім я ведала вельмі мала. І гэта стала трагедыяй у маім жыцці. Толік пасля вяселля кінуў працу ў ПГР-ы і вярнуўся да нас на гаспадарку. Я і старыя мае бацькі, якім ужо не пад сілу весці немалую гаспадарку, уцешыліся. Малады чалавек пакіруе лепш гаспадаркай, ды і нам будзе лягчэй. Але сталася інакш.

Толік доўга не ўседзеў на вёсцы, не цікавіўся гаспадаркай, а і да кілішка штораз заглядаў. З нашай вёскі хлопцы і жанатыя мужчыны ездзяць у горад да працы на будове. Паехаў і ён, казаў: «грошы зараблю». Мы ізноў самі абраблялі гаспадарку, а грошай ад яго не бачылі. Распіўся. Што дастане зарплату, ледзь у хату ўвалачэцца, а па зарплаце і след прастыў. Ды яшчэ авантурнік, такое пекла ў хаце зробіць, што ўсе з дому паўцякаюць. Прамучылася я з ім 7 гадоў, усё спадзявалася, што апамятаецца, ды і на развод падаваць саромілася. Урэшце не вытрымала і развод узяла. Перажыла гэта страшна. Нікуды не хадзіла, саромілася людзям у вочы глядзець.

Мінула ўжо ад гэтага часу 4 гады. І вось давялося пабываць мне на вяселлі, дзе пазнаёмілася я з хлопцам з недалёкай вёскі. Сказаў, што чуў аба мне, у іх вёсцы аб гэтым гаварылі. І ён стаў часта мяне наведваць, (больш як год мы спатыкаемся), ды намаўляць, каб выйшла за яго замуж. Пеця зусім іншы хлопец ад майго былога мужа. Не прыехаў да мяне ніколі п'яны, ды і ад людзей я даведалася, што без патрэбы ён не п'е. Вып'е пры нагодзе і то ў меру. Працавіты, відаць, стараецца нам памагчы. Але я баюся выходзіць замуж, баюся, каб не паўтарылася тое ж пекла, якое я перажыла. Што мне рабіць, парай, Сэрцайка.

*Лена з В.*

Лена! Спачуваю табе, ты ж столькі год зносіла здзекі п'яніцы-мужа. А ўзяць развод ты саромілася. Які ж гэта сорам? Ці ж ты абавязана мучыцца з п'яніцай і гультаём усё жыццё? Ты, як кажуць, «на гарачым апеклася, дык і на халоднае дмухаеш». Не ўсе ж людзі аднолькавыя. Не ўсе хлопцы дрэнныя. Дарэчы, за такі перыяд, як вы знаецеся, больш года, можна ўжо пазнаць чалавека. Маскавацца так доўга не змог бы, ды і людзі ж аб ім добра гавораць.

Жадаю ўсяго найлепшага ў новым жыцці!

*Сэрцайка*

## НА ПУНКЦЕ СКУПУ

Сёлета добры ўраджай бульбы на Сакольшчыне. Сяляне вязуць бульбу на пункты скупкі і фурманкамі, і перапоўненымі трактарнымі прычэпамі. Насенная цэнтраля ў Саколцы арганізавала прыём гэтага каштоўнага прадукту на чыгуначнай рампе. Тут сотні тон бульбы чакае нагрузкі ў вагоны. А вагоны падстаўляюцца параўнальна добра. Добра таксама адбываецца іх загрузка. Штодзённа напаўняецца па 10 і больш вагонаў. Кожны з іх можа памясціць у сярэднім па 24 тоны бульбы.

Не паспеюць адправіць вагонаў, калі ізноў шмат сялян пад'язджае да вагі.

Вось, напрыклад, Рышард Барташэвіч з Саколкі па цане вольнарынкавай (па 120 зл. за цэнтнер) прадаў тут дзяржаве 20 тон бульбы. Апрача гэтага, мае ён закантрактаванай 24 тоны. У яго з аднаго гектара ўраджай бульбы больш як 250 цэнтнераў. Цяпер працаўнікі насеннай цэнтралі ў Саколцы маюць шмат работы. Прыём бульбы пачынаецца ад тых гадзін, у якіх прывозяць яе сяляне.

**Тэкст і фота мх**



*Трактары сельгасгурткоў ледзь паспяваюць вазіць бульбу на пункты скупкі.*




*Ліля Грыгарук, Бельск.* Вершы атрымалі. Змесцім у «Парнасіку». Жадаем далейшых творчых поспехаў.

*Альяш Сенякевіч, Шчыты-Дзенцялова.* Зволніць з залеглага падатку могуць толькі адміністрацыйныя ўлады. Мы такіх правоў не маем, каб іх прымусіць да гэтага.

---

дарога нашым войскам адкрыта. Шкада, не ўдалося ўзарваць гэты пракляты штаб! Толькі б Сярожа і камандзір выратаваліся!.. Перамога ж так блізка!..»

Мінут сорак назад, калі яны кінулі міну і тол і пабеглі ад немцаў, Тульчынскі скамандаваў: «Урассыпную!» Завулак аказаўся тупіком... Яе схапілі. Калі б Тульчынскі ўбачыў яе цяпер, ён, напэўна, сказаў бы ёй:

— Ну вось, уліпла, я ж не хацеў браць цябе на дыверсію! Страшэнна, што яна цяпер не ўбачыць сваіх — маму, брата, што так і не вернецца са свайго першага задання ў тыле ворага.

«Навошта гэта там жалезныя крукі вісяць? Не, нельга думаць пра тое, што цяпер пачнецца. Мне страшна. Я, напэўна, баязліўка. Але я вам усё роўна нічога не скажу, пастараюся нават не закрычаць...»

— Выкладайце хутчэй усё, што вам вядома, — з пагрозаю сказаў Гейнц Фюрт, падыходзячы да дзяўчыны.

Кнопка горда выцягнулася. Як ніколі ў сваім кароткім жыцці, пашкадавала яна, што такая маленькая і так мала, напэўна, падобная цяпер на гераіню! Хлапчукі ў школе звалі яе «пігаліцай». «Усё роўна! Пачынайце! Я дакажу вам, што я сапраўдная разведчыца. Дурні! Гэты фрыц не разумее, што Германія даўно прайграла вайну, што хутка яго выкінуць з гэтага дома!»

Фюрт кіўнуў гестапаўцу. Той сарваў з яе паліто, рвануў каўнер сукенкі... Кнопка крыкнула, адскочыла і тут жа кінулася на немца, упілася пазногцямі ў ненавісны твар...

*(Працяг будзе)*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Sąd" (radz.), 17—18. „Wiem, że jesteś mordercą" (czeski), 19—20. „Życie rodzinne" (polski), 21—22.

**Нараўка**
„Nie można żyć we troje" (ang.), „Prawdzie w oczy" (polski), 18—22.

**Нарва**
„Na tropach szpiega" (radz.), „Po kruchym lodzie" (radz.), 18—22.

**Дубічы Царкоўныя**
„Uwaga żółw" (radz.), „Dzięcioł" (polski), 18—22.

**Арэшкава**
„Mój kochany Robinson" (NRD), „Kochana ciocia Sarika" (węgierski), 21—22.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Kamo znany osobiście" (radz.), „Kamo niebezpieczna misja" (radz.), 18—22.

**Орля**
„Przyjęcie" (rumuński), „Aleksander Newski" (radz.), 18—22.

**Райск**
„Kaszabe" (polski), „Kajtek i siedmiogłowy smok" (węgierski), 18—22.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Miałem 19 lat" (NRD), 17—18. „Czym mogę służyć" (czeski), 19—20. „Nie lubię poniedziałku" (polski), 21—22.

**Шудзялава**
„Nie można żyć we troje" (angl.), „Akcja „Brutus" (polski), 18—22.

**Янаў**
„Pamiętnik szalonej gospodyni" (USA), 18—22.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Podróż nie z tej ziemi" (jugosł), 17—18. „Zaduszki" (polski), 19—20. „Słuchajcie bicia dzwonów" (jugosł), 18—22.

**Мельнік**
„Partyzant z Lilejskiej góry" (jugosł.), 17—18. „Pali się moja panno" (czeski), 19—20. „Szerokiej drogi kochanie" (polski), 21—22.

**Мілейчыцы**
„Czekamy w Monte Carlo" (polski), 17—18. „Żandarm z gór" (bułg), 19—20. „Trzecia część nocy" (polski), 21—22.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Oficerowie" (radz.), „Jaskółki" (węgierski), 18—22.

**Новы Двор**
„Maskarada szpiegów" (czeski), „Przystań" (polski), 18—22.

Ніва

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 6.661 T-3

## ВЫХАВАЎЧЫ ЭФЕКТ

Ён у нас адзін. А нас у яго... Вось палічыце: я, жонка, дзве бабулі і адзін дзядуля. Для аднаго Вовы — хопіць, аж занадта. Не з пункту гледжання арыфметыкі, вядома. Хоць кожны з нас хоча ад хлопчыка зусім мала. Вось я, напрыклад: хачу, каб у маім сыне паўтарыўся я — бацька. Але Валя (мая жонка) лічыць, што калі Вова ўдасца ў тату, ён будзе нешчаслівы чалавек. А вось калі ў яе пойдзе...

— Што вы разумееце ў выхаванні? — абрываюць нас у адзін голас бабулі, — вас саміх яшчэ вучыць ды вучыць...

Такім чынам, у кожнага з нас свая сістэма, можна сказаць, свая школа выхавання. І ўсе гэтыя школы на кожным кроку ўступаюць у проціборства.

Самому Вову пяты год. І ён, вядома, яшчэ не вырашыў, якой школе даць перавагу. Пакуль што паддаецца ўздзеянню то адной, то другой, то трэцяй школы — у залежнасці ад акалічнасцей і, што грахі таіць, выгады для яго.

Мая школа — суровая. «Ты будзеш салдатам — рыхтуйся!» — кажу я сыну, і сын ахвотна згаджаецца. Яму падабаецца хадзіць са мной у магазін і купляць гармату ці аўтамат. Калі я прымушаю раніцай мыцца халоднай вадой, то Вова тут жа ўцякае да мамы — у мамінай школе баяцца прастуды. І халодную ваду не паважаюць.

— Я, калі быў такі, як ты, бегаў у адной кашулі і босы, — пахваліўся неяк дзядуля Фёдар.

Назаўтра Вова пабег на двор без паліто — і бабуля Вера з енкам загнала ўнука ў хату ды яшчэ і адлупцавала.

Другая бабуля, Агата Іванаўна, прыхільніца духоўных каштоўнасцей у чалавечай асобе, заявіла:

— З заўтрашняга дня Вовачка мой. Заўтра, мой каток, пойдзем з табою ў музей.

— Ура! — закрычаў Вова.

Мы ўсе прамаўчалі.

— Ну, што? — спытаў я ў сына назаўтра. — Быў у музеі?

— Ага! — задаволены, адказаў ён.

— У якім?

— Ну ў гэтым... як яго...

— У літаратурным, — важна адказала за Вову Агата Іванаўна. Завіхаючыся на кухні, яна чуйна прыслухоўвалася да нашай размовы.

— Ага, у літа...атурным, — не менш важна паўтарыў Вова.

— Спадабалася?

— Ага! Ведаеш, там вісела такая прыгожая-прыгожая, чырвоная-чырвоная штука!.. Зараз спытаю ў бабулі, як яна завецца.

Ён пабег у кухню і тут жа вярнуўся:

— Вогнетушыцель, тата!

*Кім Пугач*




— *Дзе ты навучыўся так лічбы складаць?*
— *А мой тата заўсёды так робіць, калі рыхтуецца да справаздачы.*



— *А цяпер пяройдзем да вывучэння жалудка. Студэнт Пятроўскі, не марудзьце!*




## Талаваломка



Вынесеныя з фігуры кружкі размясціце ў ёй так, каб аднолькавыя кружкі не стаялі побач ні на адной лініі.

*

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*



### ДЗЕЯСЛОВЫ

Настаўнік просіць вучняў напісаць два сказы, каб у кожным з іх было па пяць дзеясловаў.

— Ну, што ты напісаў? — звярнуўся настаўнік да Янкі.

Хлапец устае і бойка чытае:

— Мама варыць, прыбірае, шые, сцірае і гладзіць. Бацька есць, п'е, курыць, чытае і спіць.

### У СЯМ'І — НЕ БЕЗ...

Здараецца, такое ўчуеш
з болю:
І ў нас, як і ў любой сям'і,
не без...
Маўляў, не ўсюды роўна
родзіць поле,
І не аднолькавы усюды лес.
Яно, вядома, тут не запярэчыш,
Ды толькі ад таго душа баліць,
Што некалі харошая малеча
Цяпер дарослым пудзілам
глядзіць.

*Ул. Правасуд*

### ВЫВАД

У гады вучобы Эрнест Хэмінгуэй атрымаў заданне напісаць сачыненне аб карысці ведаў. Пасля доўгага роздуму ён прыйшоў да вываду: «Чым больш вучышся, тым больш ведаеш. Чым больш ведаеш, тым больш забываеш. Чым больш забываеш, тым менш ведаеш. Чым менш ведаеш, тым менш забываеш. Чым менш забываеш, тым больш ведаеш. Дык навошта вучыцца?»



*Дробны рамонт.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Т. Зарыцкай з Мінска змяшчаем песню

## LEŚNE OGNISKO




Ognisko płonie w lesie,
wiatr cichą piosnkę niesie,
przy ogniu zaś drużyna
gawędę rozpoczyna,
a echo niesie tony w dal
po cichym, śpiącym lesie,
a echo niesie tony w dal
po cichym, śpiącym lesie.

### ДАПАМАГАЎ

Янка спазніўся ў школу.

— Выбачайце, але адзін чалавек згубіў дзесяць злотых, і я яму дапамагаў іх шукаць, — апраўдваўся ён перад настаўнікам.

— Знайшоў?

— Так, вось яны.

— А што ж той чалавек?

— Яшчэ шукае!

### З ЯКОГА ЧАСУ

Настаўнік гаворыць:

— Янка, ты доўга хварэў і цяпер павінен больш працаваць, каб дагнаць сваіх сябраў. З якога часу ты не быў у школе?

— З моманту высадкі Хрыстафора Калумба ў Новым свеце.

### КЕМЛІВЫ

Янка ніяк не мог запамятаць назвы дзён тыдня. Тады настаўнік параіў яму:

— У вас кураняты ёсць? Вось і назаві іх па днях тыдня. Адно хай будзе панядзелак, другое аўторак і гэтак далей.

Той абяцаў выканаць.

Праз некалькі дзён настаўнік пытае вучня:

— А ну, пералічы дні тыдня, Янка!

— Панядзелак, аўторак, серада, чацвер, субота, нядзеля, — бойка адрапартаваў Янка.

— Добра. Але чаму ты забыў пятніцу?

— Я не забыў, але пятніцу схапіў каршун...

### НЕБЯСПЕКА

Некалькі студэнтаў медыцыны прыйшлі на экзамен. Пасля экзамена адзін з іх ідзе да прафесара.

— Выбачайце, калі ласка, але вам пагражае небяспека!

— Як гэта?

— Вы зрэзалі майго калегу.

— Ну і што? Ён абсалютны невук.

— Так, але ён кажа, што пры першай нагодзе ўсадзіць вам нож у сэрца!

Прафесар усміхнуўся:

— Будзьце спакойны! Ваш калега зусім не кеміць, дзе гэты орган знаходзіцца!

### НАЙЛЕПШАЯ ПАРА

Настаўнік расказвае ў класе аб порах года:

— Зімою многа снегу. Замярзаюць азёры і рэкі. Вясною палі пакрываюцца рунню, распускаюцца пупышкі. Летам жнуць жыта. Восенню даспяваюць фрукты...

Настаўнік прыкмячае, што Янка не слухае.

— А ну, Янка, скажы, якая пара найлепшая для збору яблык, — звяртаецца настаўнік да хлапца.

— Калі гаспадара няма дома і сабака спіць, — бойка адказвае Янка.

### ВЫНІК

На працягу двух гадоў аспірант Д. выпрацоўваў у сабакі Чарнушкі ўмоўны рэфлекс: ён прывучаў сабаку есці толькі па званку. Вынік аказаўся незвычайны. Цяпер, як толькі чуваць званок на абедзенны перапынак, аспірант Д. першым імчыцца ў буфет.







### ГЛУХІ НЯХАЙ ПАЧУЕ...

Група гледачоў паўфінальнага футбольнага матча на кубак Англіі паскардзілася, што ігракі абедзвюх каманд — «Арсенала» і «Стаксіці» — палівалі адзін аднаго на полі самай бруднай лаянкай. На пытанне, як маглі гледачы пачуць з трыбуны вялікага стадыёна гэтыя дыялогі ігракоў, прадстаўнік тых, што скардзіліся, адказаў, што ўсе яны... глухія і таму «прачыталі» лаянку па губах грубіянаў.

### НЕЗВЫЧАЙНАЯ НАЗВА

Бухарэст. Маленькі астравок, які загубіўся ў балотах і багнах Біхорскага павету каля мястэчка Сэкуень, носіць незвычайную назву — замак Таўрулуй. Гэта зацікавіла мясцовых школьнікаў, якія вырашылі абследаваць таямнічы кавалачак сушы. На востраве яны выявілі руіны сапраўднага замка, які мае вялікую археалагічную цікавасць. Вучоныя ўстанавілі, што ён быў пабудаваны фракійцамі ў 1850—1450 гадах да нашай эры. Каля замка знойдзены сляды вялікага паппялішча і рэшткі дрэнажнай сістэмы. Выяўлены таксама старажытныя каменныя жорны і сельскагаспадарчы інвентар, якія і сведчаць аб тым, што старажытныя жыхары гэтых месцаў займаліся земляробствам.

Такім чынам, дзіўная назва астраўка аказалася цалкам апраўданай.

### ПА ЧЫМ ПЕРАКУР?

Прыбаўка да заплаты — справа вельмі прыемная, асабліва, калі для гэтага дастаткова толькі кінуць курыць. 10 долараў — такую суму штомесяц даплачвае японская фірма «Йашкока когіе» кожнаму свайму работніку, які не курыць. Падлікі паказалі, што фірма штомесяц страчвае на перакурах 1000 мінут. Было вырашана, што прэміі за некурэнне абыдуцца танней.




**Нічога так добра не помняць вучні, як памылкі сваіх настаўнікаў.**